**Тамара Аўсяннікава**

# Стромкая галінка

*Вершы*

Магілёў
2013

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
А 93

**Аўсяннікава, Т. П.**
А 93 Стромкая галінка: вершы / Тамара Аўсяннікава. — Магілёў, 2013. — 52 с.

У кнігу ўвайшлі вершы лірычныя, філасофскага зместу, з адценнем іроніі. Аўтара хвалююць сны і ява. Яна зберагае ў памяці дарагія сэрцу імёны, звяртаецца да такіх фальклорных жанраў, як замова і галашэнне.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

У бярозы ўсе галінкі
гнуткія,
А адна непакорная —
стромкая.



*****

У бярозы ўсе галінкі гнуткія,
А адна непакорная — стромкая.
Разнеслася па ваколіцы чутка
Аб галінцы, што расце строма.

Што за стромкая галінка?
Трэба абламаці,
Тут бяльмом на воку
Нечага тырчаці.

Абламалі галінку.
Растапталі,
Знішчылі…

А яна вясною
З Божаю расою,
З мамінай слязою
Зелянее весела!

*04.03.2011*

*****

Без рук і без галавы
Дрэвы стаяць.
Нібы адгалоскі вайны,
Нема крычаць.

Дрэвы хочуць жыць.
Яны расцвітуць па вясне.
Але... дрэвам баліць!
Іх раны баляць і мне.

*12.04.2012*



*****

У лесе я не адна,
У лесе не адзінокая,
Што бярозка, то мне сястра,
І сяброўкай — кожная сосенка.
Абдыму я іх па чарзе,
Галавой прыхілюся,
Верхаліна ласкава шапне:
— Не хвалюйся.
Нібы голас ахоўны маці…
І на сэрцы стала святлей.
Быць у лесе — такое шчасце!
Я ў прыроды ўзяла прычасце —
Жыць на свеце цяпер лагадней.

*22.04.2012*

*****

У лесе Любужскім бываць я люблю:
Ён жывы для мяне, субяседнік прыемны.
У маўчанні сваім і яго я лаўлю
Па-разуменне.

У лесе Любужскім люблю я бываць:
Там утульна душы і прыходзіць натхненне.
Як жа хораша мне ўсведамляць:
Лес — збавенне!

Ад нягод, гарадской мітульгі-мітусні
Лес збавенне, адхланне маё, тая кропка,
За якую адчайна чапляемся мы
Так таропка.

*18.10.2012*

*****

Час спыніўся.
Не дрогне лісточак ніводзін...
І галінку не кратае вецер.
У квяцістым сваім карагодзе
Лес застыў урачыста. Вечар.

Час спыніўся.
У душы, наваколлі спакойна.
Сэрца светлаю поўніцца радасцю.
Адцвітае прырода дастойна:
Без жарствы, без трывог і без зайздрасці.

*18.10.2012*



## Замова

Зара-зараніца,
Божая памачніца!
Сілы Нябесныя і Зямныя!
Дапамажыце маёй сястрыцы,
Стромкай галінцы!
Не дайце ветру-віхуры яе зламаці,
Ліхой сіле знішчыць.
Няхай дожджык яе абмывае,
Лагодны ветрык лашчыць,
Добрае слоўца лечыць,
Бяду-гора адводзіць,
Ад нячыстай сілы ратуе.
Яна не зломак, не калека,
А Божае стварэнне.
Няхай яе людзі паважаюць,
У Пракруставы ложак не ўкладаюць.
Сыдзі, нячыстая сіла,
На гнілое балота, на сухі лес.
Ты там. А мы тут.
Цьфу, цьфу, цьфу!

*16.09.2012*

Паэты аб каханні не змаўкаюць
з часоў, як свет стаіць.



*****

Завалодаць не мушу я сэрцам.
І не мушу застацца у ім.
Божа праведны, мне ж куды дзецца
Ад маланкі, што ў сэрцы маім?!

Мы — чужыя з табой палавінкі,
Нам пад зорамі не мілавацца
І не цешыцца ўсмешкай крывінкі,
Назаўсёды нам трэба расстацца.

Напаследак давай пагаворым,
Наталімся імгненнем хвілінкі
І растаннямі лёсы адорым...
Мы — чужыя з табой палавінкі.

*01.07.2010*

*****

*В.С.*

Ты кахаў мяне, як ніхто,
Як ніхто не кахаў ніколі!
У кахання твайго ў палоне
Засталася навекі я.

Час ідзе несупынна, міжволі,
І над ім ў нас улады няма.
У кахання твайго ў палоне
Застаюся навекі… адна.

*12.02.2011*



*****

Памяць вяртае назад
У тую вясну далёкую...
Сядзелі з табою мы пад
Яблынькай адзінокаю.

Нявестай пакінутай дрэва
У белай сукенцы стаяла,
І ты цалаваў сваю Еву,
Жанчыну з рабра Адама.

З пары шчаслівай, як водзіцца,
І ў дождж, і ў спякоту, і ў сцюжу
Пад яблыньку цалавацца ходзім мы,
І час пачуцці не здужаў.

Пачуцці не здужаў час,
Здужаў жыццё зямное,
Разлука лягла між нас...
Яблынька, дзякуй
за шчасце былое.

*22.04.2012*

*****

Як такое магло са мной стацца?
Павянчаная я з адзінотаю.
Сіл не маю я з ёю расстацца —
На паперы гучым адной нотаю.

Ёй сакрэты свае давяраю,
Калі чэсна, даўно іх няма,
Мукі творчасці з ёю люляю,
Адзінота ёсць Муза мая.

Адзінота сардэчна вітае
І саюз наш, наўрад ці, міне.
Адзінота мяне забівае,
Адзінота ратуе мяне.

*06.02.2011*

*****

Добры дзень, дарагі…
Добры дзень, дарагая…
Мы яшчэ не былі
Блізка так каля краю.

Я любіла Вас светла,
Так высока любіла,
Ваша імя святое
Дадавала мне сілы.

Пры спатканні аднойчы,
Апавіты спакусай,
Цалавалі Вы тройчы.
Нечакана — у вусны.

Пацалунак гарачы —
Ён, магчыма, штосьці значыць…

*31.01.2012*

# Частушкі

*****

Мы з табою берагі
без мастоў і кладкі.
Ад цябе, мой дарагі,
бегла без аглядкі.

*17.09.2009*

*****

Вабяць ружы,
Шыпы колюць,
Жыві, дружа,
Буду помніць.

*05.06.2012*

*****

Паэты аб каханні не змаўкаюць
з часоў, як свет стаіць.
Яно нясе пакуты, здзекі,
ды кожны мроіць, сніць
і аж да смерці
надзеі не губляе.
У маладосці я хацела,
пачуцці ветрам каб,
маланкаю былі!
Цяпер хачу, каб рукі разам
і поруч моўчкі быць.

*07.02.2011*

Ёсць імёны звычайныя,
А ёсць дарагія...



*****

Ад зімы да лецейка
Цягнуцца дзянёчкі,
Ўспамінае маміны
Словы доня-донечка.

Ах, як грэе маміна
Прыгаворка гэтая:
— Пеpазімавалі зімачку,
Мoжа, й пералетуем.

Ападае лісцейка —
З мамай не сумуем:
Лета пералеталі,
Мо, й перазімуем.

Мамачка, матулечка,
Як бы сёння чулася,
Да цябе, гаротніцы,
З сэрцам прыгарнулася!

А вясной з салоўкаю —
Прыгаворка гэтая:
— Пеpазімавалі зімачку,
Мoжа, й пералетуем.

*05.10.2011*

*****

Снайпер фашысцкі сядзіць на сасне,
Цэліца ў скроню.
Бацька-салдат па Еўропе ідзе,
Пот выцірае далонню.

Смагай спякота на вуснах застыла,
Ногі здранцвелі.
Каску нямецкую нейкая сіла
Насуперак волі надзела.

Дагнала салдата варожая куля —
З чужою зямлёю змяшалася кроў...
Змоўкла на момант у лесе зязюля,
Ды кукаваці ўзялася ізноў.

— Дзякуй, зязюля, кувай мне гадочкі,
Трэба вярнуцца жывым:
Дома чакаюць тры кветачкі-дочкі —
Бацька і маці я ім.

Мой будучы бацька вярнуўся дамоў,
Я нараджэння чакала.
Нямецкая каска ад смерці ліхой
Бацьку майго ўратавала.

*06—17.10.2011*

*****

А хто ж мне парадачку дасць?
— Татачка родненькі.
А хто ж мяне пашкадуе?
— Матуля любая.
А хто ж мяне прыгалубіць?
— Каханы-суджаны.
А хто ж са мной пагаворыць?
— Сястрыца мамчына.
А хто ж мяне, хто прыплача?
— Сястрыца таткава.
Да каго ж я прыхілюся?
— Да брата кроўнага.
Пагукала, пагукала…
Ніхто не азваўся.

*05.03.2012*

*****

На бацькоўскі ступіла парог —
Зашчымела нясцерпна сэрца.
Я ішла сюды з доўгіх дарог,
Каб душою збалелай сагрэцца.

Што ж цяпер я застыла нясмела,
Як струна ўся нацятая?!
Так істота мая скамянела —
Увайсці не змагла ў хату я.

На падворку радзімым стаю
Я чужою для сада і хаты…
Цепляць тут ўжо душу не маю
Рукі маці і голас таты.

Замест прызбы — падмурак цагляны.
І страхі саламянай няма...
Конь дзяцінства майго расцугляны
Са мной будзе не спаць давідна.

*19.07.2012*

# Няма тваёй усмешкі сярод нас

*Нічога не вяртаецца назад:*
*Ні гэты міг, ні гэты дзень, — я знаю.*
Я. Янішчыц

«Нічога не вяртаецца назад», —
У дзень той спадарожніцам чытала.
Не ведала, што ты — у снегапа-а-а-д!
І на зямлі адной сняжынкай болей стала.

«Нічога не вяртаецца назад», —
Шчымліва ў вершы ты сваім пісала.
О, як нявесціцца вясновы сад!
Ды кветачкай адною ў свеце меней стала.

А сёння вершаў розных — цераз край.
І шкадаваць, як быццам, не да твару,
А я крычу у лістапад праз май:
— Мой Бог, вясну вярні, вярні паэту мару!

О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы лебедзевы склала?
Няма тваёй усмешкі сярод нас —
І песняю тваёй на свеце меней стала.

Вясну любіла, спелае жніво,
«Сланечнікі» і «Касачы» Ван Гога,
У глебы брала сілу і цяпло,
Ірвалася да зор — у вечнасць
                                        йшла дарога.

Твой лёс паэта — неба прыгавор.
Beata solitudo* так натхняла!
Магнітам быў Галактыкі прастор —
І зоркаю адной на небе болей стала.

*05.07.2009*

**Beata solitudo** — *лат.*, блаславенная адзінота.



*****

*М.Б.Я.*

Ёсць імёны звычайныя,
А ёсць дарагія,
Пры ўспаміне якіх
Сэрца радасцю поўніцца.
Вы — праменьчык святла
З юнацтва майго,
З юнацтва, якое не вернецца.
Наваколлем бялюткім
Снежань мне напамінкам аб Вас!
І вясновая квецень
Аб Вас мне гаворыць.
Каляровы лісток —
Успамін залаты.
Маё сэрца пяе, пяе — не галосіць.

*Снежань 2010*

*****

*Алесю Пісьмянкову*

Пакаціўся верш Алеся
Светлаю слязою
На ягоны луг, на Бесядзь,
Заблішчаў расою.

Ах, Алесь, ах, братка мой,
Пры жыцці сустрэцца б!
Гаманілі б мы з табой,
Слухала б нас Бесядзь…

*Май 2012*



*****

*Нілу Гілевічу*

Няўтульна голаму Дрэву
позняй восенню.
Маўчыць Яно.
І ёсць штосьці высокае і
трагічнае ў гэтым маўчанні.
Трапеча на ім адзінокі лісток,
распяты ветрам і сцюжаю,
і маё сэрца трапеча
разам з тым лістком,
і маё цела сцінае холад,
як сцінае ён тое Дрэва.
Ад голькі лісток адарваўся
і, падхоплены ветрам,
закружыўся мройна-шчаслівай
мелодыяй палёту.
З тым лістком кру-жу-ся,
апускаюся на зямлю і я.
І мы трапляем пад абцас
няспыннага часу.

*Снежань 2010*

*****

*Нілу Гілевічу*

Сіла паэта — у слове.
Сіла паэта — ў пазіцыі.
Не ў прыслужніцтве,
Не ў абароне чужой амбіцыі.
Сіла такая ў паэта —
Вершы для дзетак пужаюць
Манкуртаў бязродных,
                                        адпетых,
Пасады і крэслы хістаюць.

*04.12.2012*



*****

*Нілу Гілевічу*
*Ялінцы Салаўёвай*

То не вецер ломіць,
Не маланка паліць,
То паэта годнасць
Топчуць,
          бэсцяць,
                    ганяць.

Божа ж, ты мой Божа,
Прасвятлі ім вочы,
Каб жа не блудзілі
Ані ўдзень, ні ўночы.

А Ялінцы-кветцы
Шчасце дай і сілу,
Праз яе павага
К мове не загіне.

*04.12.2012*

*****

Што значаць сны мае?
Аб чым яны гавораць
Хачу я зразумець.
У снах спазняюся заўсёды,
бягу кудысьці, уцякаю…
А то ўздымуся над зямлёю раптам
І — лятаю…

Ёсць месцы ў снах свае —
там я бываю.
Будынак паўразбураны і ліфт,
падобны на каляску муляроў.
Блукаю па паверхах,
а выхад не магу знайсці ніяк…

Мне сніцца сад стары.
Я грушы рву і яблыкі
на дрэвах некранутых.
Смакую. Набраць хачу з сабою.
Шукаю рэчы я свае
і не знаходжу…

Аднойчы сон такі прысніла.
Я падымаюся на дах

высокага будынка.
І што я бачу? Неба —
неймавернай прыгажосці!
Я воблакі рукой кранаю…
А пад нагамі —
кватнік шматкаляровы,
і зелянеюць
газоны роўныя,
і вадаём
пакрыты раскай.
Я адчуваю,
хтосьці на мяне глядзіць.
Цікуе. Сочыць. Прытаіўся.
У расцы вока заўважаю:
хітрушчае, вялізнае —
іскрынкі ў ім гуляюць.
Без страху ўсведамляю,
што гэта вока кракадзіла.
А што далей было — не знаю.

Што значаць сны мае?
Аб чым яны гавораць?..

*02—04.11.2011*

*****

На вуліцы шумнай на ўзбоччы
Чацвёра сабак.
Панура на лапы галовы паклалі
І моўчкі глядзяць.
Сяброўка знямоглая, пятая,
Ляжыць пад бардзюрам,
Не можа устаць,
Няшчасную збіла машына —
Ёй тут паміраць.
Раз-пораз яны падыходзяць,
Схіляюцца, нюхаюць,
Спагадных вачэй з сяброўкі не зводзяць,
Трывожацца, слухаюць.
З удзячнасцю вочы сяброўка адкрыла —
Сляза пакацілася.
Сабрала апошнія кропелькі сілы —
Навекі забылася.
Як па камандзе сабакі усталі,
Пысамі, нібы рукамі, сяброўку паднялі,
Панеслі на ўзбочыну.
Шчыльным кружком агарнулі
Цела нябожчыцы.
Панура на лапы галовы паклалі,
Моўчкі ляжаць.
Будуць сяброўку сабакі чацвёра
Так памінаць.

*24.04.2012*

*****

Не склаліся адносіны
З сабакамі ў мяне,
Баюся іх з дзяцінства,
Абходжу за вярсту.

Кусала мяне такса,
Аўчарка нападала,
І стафтэр’ер штоночы
Спакою не дае.

Што хоча мне сказаці?
Маўчыць, не нападае.
І гаспадыня ціха:
«Не бойся», — кажа мне.

У вырай паляцеці
Спакойна я хацела,
Ды стафтэр’ер, што Цэрбер,
Палохае мяне.

*12.09.2011*

*****

Абмежаваны ад нараджэння да смерці.
Не дай, Божа, ад абмежаванняў памерці.
Абмежаваны дзяржавай, законамі,
Навучальнымі ўстановамі.
Абмежаваны ўмовамі бытавымі,
Праблемамі радавымі.
Абмежаваны хамствам і модамі,
Парадкамі і ўсякімі ўродамі.
Абмежаваны самасцю-пыхаю,
Каб яны так дыхалі.
Абмежаваны скрыўленай свядомасцю,
Месначковай вядомасцю.
Абмежаваны лесвічнымі праёмамі,
Сябрамі, знаёмымі.
Абмежаваны сайтамі, сектамі,
Лекамі, бездухоўнымі калекамі.
Абмежаваны кватэрамі, межамі,
Гастралёрамі заезджымі.
Абмежаваны яснавідцамі, гадалкамі,
Абавязкамі, як удаўкаю.
Абмежаваны станам здароўя,
Абмежаваны зменай надвор’я.
Абмежаваны чуткамі, плёткамі,
Суседкамі-цёткамі.

Абмежаваны прымхамі, прастораю
І дзяржаўнаю моваю.
Абмежаваны людзьмі хіжымі,
Каб усе яны выжылі,
Каб жыццё не здалося малінаю.
Толькі Бог не пакінуў бы.

*14.10.2012*



*****

Прабач мяне, Зямля-матуля,
Прабач грахоўнае маё жаданне.
Я не цураюся твайго святога
ўлоння,
Але...
        мой прах няхай агонь ачысціць.

Бліжэй да бацькі-Неба быць хачу,
Да срэбных зор і месяца Яго.
Адтуль змагу я сузіраць
На прыгажосць тваю зямную.

Прабач мяне, Зямля-матуля,
Прабач, душа прастору просіць.

*11.12.2011*

Я не паэта, о крый мяне божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала.

*Янка Купала*



*****

Падземнае кручу верацяно.
І  набягаюць думкі хвалямі…
І вось сяджу, і гавару з Басё
Пра хайку, ды чамусьці ямбамі.

Ван Гог вар'ятам на мяне глядзіць,
Заносіць нож над вухам,
Сваім, канешне, не маім,
А я Басё ўсё слухаю і слухаю.

І раптам промнем
                    кропка Мандэльштама
У небе засвяцілася!
І мексіканкі Фрыды драма
Сюр-
   рэалістычнымі палотнамі
                                раскрылася.

Ўзнікае жоўты дом перада мной
І поле, што з варонамі,
І скрыпка плача за сцяной,
А я схіляю галаў прад іконамі.

*24.07, 21.12.2010*

*****

Я ў дзяцінстве не мела раскошы.
І ў юнацтве яе не было.
Потым стала на ногі, узбілась на грошы…
А цяпер зноў жыву без раскошы,
Ды па-іншаму й быць не магло.

Калі ты нарадзіўся ў нястачы,
Калі ў думках лунаеш, як птушка,
Застанешся без грошай, лядачы,
Не сумуй, быць не можа іначай,
Бедным быў сам Сяргеевіч Пушкін.

*28.03.2012*

*****

*Я не паэта, о крый мяне божа!*
*Не рвуся я к славе гэткай німала.*
Янка Купала

Я не паэтка, о крый мяне Божа!
Не рвуся я к славе гэткай німала.
І думаць аб ёй мне нават не гожа,
Хоць гучна завуся — Тамара.

Схлушу, калі стаць не хацела
Паэтам, як Янка Купала,
Ды дзе там, чарга падаўжэла:
Наперадзе хлопцы і Анка Упала.

Я сілюся вершык свой напісаць,
Заглядваю ў сэрца і слухаю неба.
Адтуль мне Мядзведскі смяецца,
птамаць:
— Не трэба пісаць, ой, не трэба.

*06.07.2012*

*****

Для мяне паэты — небажыцелі,
Недасяжнасць, вышыня,
Слову роднаму служыцелі.
Музы і Пегас для іх — радня.

Тут і я сярод паэтаў блытаюся,
Тайну спасцігаю, як магу,
Кацянём у мудрагелы тыкаюся,
Без надзеі на Парнас гляджу.

З-пад гары вядзьмак, ні даць ні ўзяць,
Сунецца насустрач вузкай сцежкаю.
«Шаманом сапраўдным трэба стаць», —
Мімаходзь прамовіў мне з усмешкаю.

*12.04, 08.07. 2012*

*****

*Я маўчу, маўчу, трываю.*
Якуб Колас

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым гавару
матку-праўду,
што патрэбна,
мабыць, толькі адной мне.

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым узарву-у-ся!
Разляціцца
у паветры
непатрэбнае нікому.

Ўсе маўчаць, маўчаць, маўчаць.
Сэрца вытрымаць не можа:
зверху — ціш,
унізе — гразь
непатрэбная нікому.

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым гавару
матку-праўду,
што патрэбна
каму-небудзь мо яшчэ.

*16.09.2012*

*****

Прозвішча маці
ад плюшчу паходзіць,
які без апоры не ўецца.
Я дзякую Бога за тое,
што просценькі верш
напісаць удаецца.

*08.07.2012*

*****

Я прашу у Бога,
я прашу у неба
аднаго.
Каб далі не хлеба,
а далі мне слова
для таго:
выказаць не думкі —
ўсе яны чужыя, —
сэрца трапяткое
выказаць сваё.

*16.09.2012*

*****

Я стамілася жыць па чужых правілах,
Я стамілася быць тактоўнаю і харошаю,
Не спраўляюся ўжо, не пад сілу мне
З такой ношаю.

Раскудлаціць бы думкі і пусціць па ветру,
Распіліць бы на сэрцы жалезныя краты,
Сваю існасць на волю выпусціць,
толькі —
Дзе памагаты?

Колькі ж можна быць абавязанай
Усім на свеце, а табе — чалавек ніводзін?!
Па руках і нагах абавязкамі звязана.
Развяжы, Госпадзі.
.

*31.12.2012*

# ЗМЕСТ

## РАЗДЗЕЛ I

"У бярозы ўсе галінкі гнуткія" . . . . . . . . . . . . . . . . 6
"Без рук і без галавы" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 7
"У лесе я не адна" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 8
"У лесе Любужскім" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 9
"Час спыніўся" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .10
Замова . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .11

## РАЗДЗЕЛ II

"Завалодаць не мушу я сэрцам" . . . . . . . . . . . . . . . . .13
"Ты кахаў мяне, як ніхто" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .14
"Памяць вяртае назад". . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .15
"Як такое магло са мной стацца?" . . . . . . . . . . . . . .16
"Добры дзень, дарагі...". . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .17
Частушкі. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .18
"Паэты аб каханні не змаўкаюць" . . . . . . . . . . . . . .19

## РАЗДЗЕЛ III

"Ад зімы да лецейка" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .21
"Снайпер фашысцкі" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .22

"А хто ж мне парадачку дасць?" . . . . . . . . . . . . . 23
"На бацькоўскі ступіла парог" . . . . . . . . . . . . . . 24
Няма тваёй усмешкі сярод нас . . . . . . . . . . . . . . 26
"Ёсць імёны звычайныя" . . . . . . . . . . . . . . . . . . 28
"Пакаціўся верш Алеся" . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
"Няўтульна голаму Дрэву" . . . . . . . . . . . . . . . . 30
"Сіла паэта — у слове" . . . . . . . . . . . . . . . . . . 31
"То не вецер ломіць" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 32

## РАЗДЗЕЛ IV

"Што значаць сны мае?" . . . . . . . . . . . . . . . . . . 34
"На вуліцы шумнай" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 36
"Не склаліся адносіны" . . . . . . . . . . . . . . . . . . 37
"Абмежаваны" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 38
"Прабач мяне, Зямля-матуля" . . . . . . . . . . . . . . 40

## РАЗДЗЕЛ V

"Падземнае кручу верацяно" . . . . . . . . . . . . . . . 42
"Я ў дзяцінстве не мела раскошы" . . . . . . . . . . . 43
"Я не паэтка, о крый мяне Божа" . . . . . . . . . . . . 44
"Для мяне паэты — небажыцелі" . . . . . . . . . . . . . 45
"Я маўчу, маўчу, трываю" . . . . . . . . . . . . . . . . . 46
"Прозвішча маці ад плюшчу..." . . . . . . . . . . . . . . 47
"Я прашу у Бога" . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 47
"Я стамілася жыць па чужых..." . . . . . . . . . . . . . 48

Літаратурна-мастацкае выданне

**Аўсяннікава**
**Тамара Пятроўна**

**СТРОМКАЯ ГАЛІНКА**
*Вершы*

| | |
|---|---|
| Камп`ютарны набор | аўтара |
| Камп`ютарная вёрстка | Т.В. Снігірова |
| Мастацкае афармленне | Т.В. Снігірова |
| Малюнкі | Юлі Бхан |
| Мастацкае афармленне вокладкі | Базыль і Максім Камаровы |

Выдавец Давід Венцэк

Друкарня D&D Ср. Z о.о. Польшча 44-100.
Г. Глівіцэ, вул. Манюшкі, 6.
druk@dd.com.pl
Тыраж 25 асобнікаў.